

# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добрый вечер

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1993 ЖНІВЕНЬ 17 АЎТОРАК

№ 153 (588)

Цана 10 рублёў

## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ», АГЕНЦТВАЎ РІД, БЕЛАПАН, БЕЛІНФАРМ

☐ ФОТОФАКТ



С благодарностью отзываются пассажиры о проводниках, обслуживающих фирменный поезд «Белоруссия», курсирующий между белорусской столицей и Москвой. Обслуживает этот маршрут молодежная бригада Минского вагонного участка, которой руководит Анатолий Александрович ПАВЛОВ.

**НА СНИМКЕ: (слева направо) проводницы Алла Майсеня, Зоя Куликова, Наталья Горбачева и начальник поезда Анатолий Павлов.**

**Фото Анатолия ДАШКЕВИЧА.**

☐ МЕДИЦИНА

### ЦЕНТР НАДЕЖДЫ

Анатолий ВИТКОВСКИЙ.

Заболевания крови можно будет лечить уже с октября этого года в Центре по трансплантации костного мозга. Он создается на базе 9-ой клинической больницы в Минске.

— После аварии на Чернобыльской АЭС среди жителей республики наблюдается некоторый рост заболеваний крови, — сообщил корреспонденту РИДа руководитель центра А.Л. Усс. — До сих пор отмечены только единичные случаи излечения людей с этими заболеваниями. В связи с необходимостью оказания более эффективной помощи таким больным и встал вопрос о создании нашего центра.

Работу по претворению в жизнь этого замысла взяли на себя производственное объединение «Интеграл» и немецкая фирма «Баб-Кок». Дополнительные средства выделил немецкий «Красный Крест». Помощь в оснащении центра оказывают также ряд белорусских организаций, в частности, производственное обувное объединение «Луч», управление бытового обслуживания населения Минского облисполкома.

16 августа от «Красного Креста» из Германии прибыл первый груз с медикаментами и оборудованием для оснащения центра, который будет первым и пока единственным в Беларуси.

☐ ЭКОНОМИКА

### ЗАПАДНЫЕ ИНВЕСТИЦИИ ЕЩЕ ТОЛЬКО ГОТОВЯТСЯ

Лида РОГАЧ.

Изучению финансово-экономической ситуации в Республике Беларусь посвятила свою деятельность делегация экспертов из Всемирного банка в Вашингтоне.

В ходе встреч, протекавших в деловой атмосфере в Союзе предпринимателей республики, своими проблемами с западными коллегами поделились представители крупнейших фирм и коммерческих банков Беларуси.

В круг вопросов, интересующих делегацию, входило изучение механизма функционирования малого и среднего бизнеса, специфики налоговой политики, платежей, взаиморасчетов стран Запада и СНГ. Ознакомительный характер деятельности представителей Всемирного банка предусматривал выяснение возможностей и условий для инвестиций западного капитала в Республике Беларусь.

Как сообщили в Союзе предпринимателей, проблема инвестиций находится пока в стадии предварительной разработки, до конца текущего года запланирован ряд встреч с западными коллегами.

☐ ДЕНЬГИ

### ХРОНИКА ПИКИРУЮЩЕГО «ЗАЙЦА»

Сергей ВЕРАС.

В конце минувшей недели корреспондент РИДа выяснял причину слухов о введении новой белорусской валюты. Официальные источники в лице работников Национального и Сбербанков РБ ограничились скупой информацией, передававшейся 12 августа по Центральному телевидению: проект находится на утверждении в Совете Министров, председатель правления Нацбанка, вернувшийся недавно из Москвы, никаких секретов не выдает.

В одном из коммерческих банков г. Минска ситуацию охарактеризовали как «затишье перед атакой». В их рядах популярен слух о внезапном «вторжении» талеров и «прикрытии» торговли за валюту. Многие называли и ориентировочную дату акции — 16, а понедельник — тяжелый день.

А тем временем переполняемый кривотолками «черный рынок» приступил к скупке долларов (против 2250 в некоторых банках) и обмену российских купюр на белорусские с коэффициентом 1,8.

Как обычно молчание официальных лиц оборачивается обогащением воротил теневого бизнеса и ущербом для государственной казны.

☐ СТАТЫСТЫКА

### ПРЫГОЖА ЖЫЦЬ НЕ ЗАБАРОНІШ

Вераніка БЯГУН, БЕЛІНФАРМ.

Калі размясціць усіх гасцей Беларусі ў гасцініцах, то адначасова мы можам запрасіць да сябе 31 тысячу чалавек — столькі месцаў ёсць у 15.766 нумарах беларускіх атэляў і «гасціных двароў» больш нізкага рангу.

З 261 гасцініцы, размешчанай на тэрыторыі нашай незалежнай дзяржавы, вышэйшы разрад, як сведчаць даныя Упраўлення сацыяльнай статыстыкі Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па статыстыцы і аналізу, на пачатак 1993 года маюць толькі 12. Большасць беларускіх гасцініц дасягаюць толькі да трэцяга (такіх 119) і чацвёртага разрадаў (57). Першаразраднасцю могуць пахвалiцца 27, а да другога адносяцца 46 гасцініц нашай рэспублікі.

Гаспадаром 167 гасцініц, што складае 64 працэнты ад агульнай іх колькасці ў рэспубліцы, з'яўляецца Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі. За 10 гасцініц адказвае турысцка-экскурсійная фірма «Беларусьтурыст», астатнія 84 — лічацца на балансе прадпрыемстваў і арганізацый іншых міністэрстваў і ведамстваў.

На ўсе гасцініцы нашай дзяржавы працуе 48 рэстаранаў, 36 кафэ, 55 буфетаў, 24 бары. 50 з размешчаных у рэспубліцы гасцініц могуць ганарыцца цырульнямі на сваёй тэрыторыі, а 21 — саунамі.

☐ ФУТБОЛ

### КАК БУДТО САМ КОРБУТ ИГРАЛ...

Петр ГОРДИЕНКО.

Со счетом 2:1 в пользу ветеранов минского «Динамо» завершился их благотворительный матч с минской командой «Торпедо», посвященный памяти Сергея Николаевича Корбута. В прошлом — игрок «Динамо», завуч ДЮСШ футбольного клуба МАЗа, он ушел из жизни, оставив о себе в памяти людей, знавших его, только самые добрые чувства.

Около тысячи жителей нашей столицы пришли на стадион «Торпедо», чтобы отдать дань памяти выдающемуся футболисту, а также насладиться игрой известных в прошлом мастеров футбола — Ю.Курбыко, В.Хрусталева, В.Семенова, А.Боговика, В.Курнева, Ю.Трухана и других. У победителей мячи забили Л.Румбутис и А.Алексейчиков.

На игре присутствовали родители Сергея Николаевича Корбута. А 160 тысяч рублей, собранных после матча, были отданы троим его детям.

Как сказал Валерий Семенов, на поле было так легко играть, как будто выступал сам Сергей Корбут.

☐ СЕМІНАРЫ

### КРОЧЫЦЬ УПЕРАД ШЛЯХАМ РЭФОРМ

Ул. інф. «ДВ».

Беларускі рэспубліканскі фонд падтрымкі дэмакратычных рэформаў імя Льва Сапегі ў суботу адзначыў гадавіну сваёй дзейнасці. Старшыня праўлення фонду Г.Г.Куневіч праінфармаваў прысутных на арганізацыйна-метадычным семінары аб рабоце, зробленай за год, вызначыў накірункі далейшай дзейнасці.

Праўленнем былі абмеркаваны праграмы, праекты і прапановы на наступны год.

Найбольш уважліва абмяркоўваліся заўвагі і дадаткі да пятага раздзела «Мясцовае кіраванне і самакіраванне» ў праект Канстытуцыі Беларусі. Дапрацаваны раздзел будзе пададзены ў Вярхоўны Савет у якасці заканадаўчай ініцыятывы.

☐ СУВЯЗІ

### ЦІ ПРАГНУЦЬ НАЦЫІ ЭКАНАМІЧНАЙ ІНТЭГРАЦЫІ?

Віктар ДЗЯТЛІКОВІЧ.

Сталі вядомыя папярэднія даты правядзення пасяджэнняў Каардынацыйна-кансультацыйнага камітэта і Савета кіраўнікоў урадаў. Як паведаміў карэспандэнту БелаПАН намеснік выканаўчага сакратара СНД Юрый Белавусаў, плануецца, што яны пройдуць у Мінску адпаведна 26 і 27 жніўня. Аб мяркуемым парадку дня пасяджэнняў Ю.Белавусаў палічыў гаварыць заўчасным, аднак з упэўненасцю можна сказаць, што і Каардынацыйна-кансультацыйным камітэтам, і Саветам кіраўнікоў урадаў будуць абмяркоўвацца перш за ўсё пытанні больш цеснай эканамічнай інтэграцыі паміж краінамі СНД і падрыхтоўкі адпаведных дакументаў да сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў, якая адбудзецца, хутчэй за ўсё, 7 верасня ў Маскве.

☐ ПАЛІТКЛУБ

### ЧЛЕНАМ ПАРТЫІ — ПІВА БЕЗ ЧАРГІ

Ул. інф. «ДВ».

**У мінулую суботу ў Мінскім Доме літаратара прайшоў устаноўчы з'езд партыі аматараў піва. У ім прынялі ўдзел дэлегаты з усёй Беларусі і нават замежныя госці.**

Створаная палітычная партыя — ліберальнай арыентацыі парламенцкага тыпу. Членства ў ёй — фіксаванае. Як і ў іншых партый, мэта яе дзейнасці — барацьба, перш за ўсё, за ўладу, а ўжо потым — за якасць папулярнага напітку, які п'юць камуністы і лібералы, кансерватары, сацыял-дэмакраты і нават беспартыйныя.

Што якасць беларускага піва добрая, дэлегаты з'езда маглі пераканацца падчас фуршэту.

Чым бліжэй выбары, тым больш будзе ствараецца партый аматараў улады. А што, цікава было б папрысутнічаць на з'ездах аматараў гарэлкі і чорнай ікры.

■ ФЕСТИВАЛИ

### МИНСКИЕ ДНИ В БОННЕ

Анатолий ВИТКОВСКИЙ.

В рамках фестиваля «Боннское лето» в Бонне с первого по пятое сентября пройдут «Дни культуры города Минска».

В конце августа для участия в этом значительном культурном мероприятии в Германию отправится официальная делегация во главе с председателем Минского горсовета А.М.Герасименко. Творческий конгломерат делегации весьма представителен: Государственный академический народный хор Республики Беларусь имени Геннадия Цитовича, Государственный молодежный театр, Государственный ансамбль народной музыки, песни и танца «Свята», камерный ансамбль старинной музыки «Классик-Авангард». Перед немецкими зрителями и слушателями продемонстрируют свое мастерство учащиеся музыкального лицея при Белорусской государственной академии музыки, лауреаты международного конкурса Юрий Блинов, Иосиф Сергей, Лидия Добрыжинец, актриса театра «Зніч» Галина Дягилева, пианист Игорь Оловников.

Вдобавок ко всему на фестивале будут представлены выставка книг известных белорусских писателей и кинопрограмма с показом новейших отечественных кинофильмов.

■ ОБРАЗОВАНИЕ

### ТЯЖЕЛО СО ШКОЛАМИ ЗА ГРАНИЦЕЙ

Анатолий ШИРВЕЛЬ.

Встреча с белорусскими учителями из Литвы, Эстонии, Польши прошла на минувшей неделе в обществе по связям с соотечественниками «Радзіма» в Минске.

Выяснилось, что у белорусских школ в этих странах много проблем. Так, в Эстонии мало учителей, да и учеников тоже не густо. В Литве положение в этом отношении несколько лучше. С 1-го сентября будущего года начнутся занятия в белорусской гимназии в Вильнюсе. Большой размах деятельности школ наблюдается в Польше, особенно на Белосточчине. Созданы 2 белорусских лицея, а в начальной школе в Бельске-Подлясском насчитывается около 1000 учеников.

Среди трудностей также отсутствие помещений, учебных пособий. С последним, как рассказал корреспонденту РИДа заместитель председателя общества «Радзіма» В.С.Новицкий, будет легче. Решено, что «Радзіма» совместно с Министерством образования Республики Беларусь организуют обеспечение наших школ за границей учебниками, книгами.

Встреча проходила в рамках курсов повышения квалификации, которые были запланированы еще на Съезде белорусов мира и станут теперь регулярными.

■ ГРАМАДСКАЯ ДУМКА

### МЫ — МІРНЫЯ ЛЮДЗІ...

Жыхары Беларусі ў чарговы раз прадэманстравалі сваё міралюбства і нежаданне ўступаць у якія б тое ні было ваенныя блокі. Вынікі сацапытання, праведзенага Цэнтрам даследавання будучыні «Эрыдан», паказалі: з 1448 апытаных чалавек 65 працэнтаў галасавалі б супраць уваходжання Беларусі ў НАТО, «за» прагаласавалі б 23,1 працэнта рэспандэнтаў, не далі адказу 12 працэнтаў.

Зусім па-іншаму абстаяць справы з пытаннем аб уваходжанні рэспублікі ў Еўрапейскую эканамічную супольнасць: 75 працэнтаў галасавалі б «за», 14,8 працэнта — «супраць», не далі адказу — 10,2 працэнта апытаных.

Думка аб стварэнні «Паўночнага пояса» — ваенна-палітычнай і фінансава-эканамічнай садружнасці краін «вялікай сямёркі», Беларусі, Расіі, Польшчы прывабіла 55,8 працэнта рэспандэнтаў, супраць такой садружнасці выступілі 31,2 працэнта, не далі адказу 12,9 працэнта.

БелаПАН.

■ ТОРГОВЛЯ

### «LANCOME» — ЗАКРЫТ

Виталий ЧУЯСОВ.

Хорошо известный в Минске магазин косметики и парфюмерии «Lancome» закрыт. Пока — только до конца августа.

Как стало известно корреспонденту РИДа из информированного источника, такая ситуация вызвана значительной суммой задолженности магазина своему французскому партнеру.

В «Lancome» торгуют за рубли, хотя саму продукцию — действительно французскую парфюмерию — магазин вынужден покупать за валюту. Чтобы расплачиваться за поставки, ему необходимо обналичивать свою выручку. Нерасторопность руководства и недавние потрясения на валютном рынке республики как раз и стали причиной временного закрытия магазина.

Около года назад этот жизнерадостный человек в своем дипломате из Германии в Прибалтику буквально привез начало новой истории употребления пива. Несколько баночек известного всему миру кристального «HOLSTEN», которое и сегодня варится согласно «Закону о чистоте», принятого еще в 1516 году, стали своеобразным символом прихода крупнейшего производителя немецкого напитка в страны Восточной Европы.

На днях Питер Люк побывал в Минске и провел ряд встреч с белорусскими экономистами и представителями деловых кругов республики. Решение было однозначным: силу скачущего рыцаря — символ «HOLSTEN» — уже в ближайшее время смогут испытать на себе и жители Беларуси.

РИД.

## КАЛЯНДАР



Аўторак, 17 жніўня.

**СОНЦА — 5.50/21.37.**

**Даўжыня дня — 14.47.**

**МЕСЯЦ — маладзік 22.26,**

**усход 5.20/заход 19.56.**

**ІМЯНІНЫ**

**Сёння:**

**Праваслаўныя — Еўдакіі, Елеўферыя.**

**Каталіцкія — Робэрта, Юльяны, Яцка.**

**Заўтра:**

**Праваслаўныя — Ноны, Яўсігнія.**

**Каталіцкія — Алены, Браніслава, Ілоны.**

■ АКТУАЛЬНО

### МАРШРУТЫ ЗАКРЫТЫ ВРЕМЕННО

Тамара МАРКИНА.

Минчане в недоумении. По некоторым городским автобусным маршрутам прекратилось движение. К примеру, в прошлую пятницу было заблокировано восемь. Немного легче было вчера, в понедельник — не работали автобусы следующих направлений: ул.Республиканская — ул.Одоевского (№ 7), автостанция «Восточная» — ул.Щедрина (№ 39), ул.Карастояновой — Дражня (№ 67д).

Редакция обратилась для разъяснения ситуации к главному инженеру производственного управления транспорта и связи Мингорисполкома Геннадию Георгиевичу Гончарику. Вот что он сказал:

— Закрытие маршрутов — мера вынужденная, связанная с сокращением поставок городу бензина. Городскими властями делается все возможное для стабилизации работы городского автотранспорта.

Более подробную информацию о состоянии городского транспорта читайте в ближайших номерах «Добрага вечара».

■ БУДАЎНІЦТВА

### ДЛЯ ПАСЛУГ БІЗНЕСМЕНАЎ

Сцяпан МУНЬКО.

У аэрапорце «Мінск-2» пачата будаўніцтва гасцініцы на 200 месцаў, разлічанай у асноўным на абслугоўванне айчынных і замежных прадпрымальнікаў. Да іх паслуг, у прыватнасці, будуць аддадзены бізнес-клуб, кафэ, казіно. Пры гэтым улічваецца, што тэрыторыя аэрапорта прэтэндуе на свабодную эканамічную зону: ужо зараз там часта прызямляюцца ўласныя (лёгкаматорныя) самалёты бізнесменаў далёкага замежжа, якія не жадаюць траціць час на палёты па раскладзе пасажырскіх самалётаў. Па звестках БелаПАН, работы вядуць спецыялісты «Белтрансбуда».

■ ЦЭНЫ

### ЛІЧЫЦЬ — НЕ ЗЛІЧЫЦЬ

З 14 жніўня чарговы раз павысіліся цэны на праезд у таксі. Цяпер кіламетр такой раскошы абыдзецца мінчанам у 180 рублёў. Гэта значыць, паказчык на таксаметры трэба памнажаць у 900 разоў. Як бачым, арыфметычныя веды становяцца патрэбнымі нашым грамадзянам усё больш і больш.

Сяргей СНЕГІН.

### ОСТАЕТСЯ ТОЛЬКО СМОТРЕТЬ

Что ни день, цена на него все выше. Недавно порция этого любимого не только детьми лакомства стоила чуть больше 50 рублей. Сегодня сладкое удовольствие стоит 70-80 рублей. Так что теперь детям, не говоря уже о родителях, остается только смотреть на мороженое и глотать слюнки.

Анатолий РОМАНОВИЧ.

КРИМИНАЛ

### Преступность нас захлестнула,

— так сказал корреспонденту агентства РИД заместитель начальника отдела Минского ОВДТ майор Макаревич.

— Транспорт и железнодорожные вокзалы, — рассказывает майор Макаревич, — самые криминогенные точки города. Рост цен ведет, видимо, к росту преступности. Ежедневно сотрудники нашего отдела задерживают в названных местах за различные преступления от 30 до 40 человек. Хотя вечером дополнительно работают на вокзале 10 работников милиции, людей все равно не хватает. Приказом министра введено сопровождение милицией транспорта. Проводятся выборочные рейды, в которых участвуют 2-3 ревизора и несколько милиционеров. — Скоро будет создан, — сказал в заключение Сергей Макаревич, — взвод сопровождения, и, возможно, станет легче.

Анатолий РОМАНОВИЧ.

☐ НАША СТАЛІЦА



НОВЫ ЖЫЛЫ МІКРАРАЁН «МАЛІНАЎКА-4». Фота Ю.ЗАХАРОВА.

